

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 11 (лістапад), 2016

# Мяжа




**Штрафы за збор подпісаў за бел-чырвона-белы сцяг**

(старонка 9)

# ЗЬМЕСТ

# Дзяды бароняць ад бяды



"2 лістапада – гэта дзень памінання памерлых. Радаўніца то на Усходзе Беларусі, а тут, на Берасцейшчыне, то Дзяды. У гэты дзень мы ўспамінаем блізкіх нябожчыкаў, ідзем на могілкі", - расказвае нам ксёндз Павел, які служыць у касьцёле ў Чарнаўчыцах.

2 лістапада католікі моляцца за душы памерлых, упрыгожваюць магілы, запальваюць свечкі.

З сівой даўніны ідзе беларускі народны звычай памінаць нябожчыкаў, заснавальнікаў роду. Сям'я збіралася ўвечары за памінальным сталом, і згадвалі шчырым словам тых, хто пакінуў свет гэты, і маўчалі, і чарку бралі, каб Дзядом добра было на тым свеце.

На Дзяды гатавалася ад сямі да адзінаццаці страваў – вясковая куцця, бліны, клёцкі, яечня, кумпячына. Стол мусіў быць багаты, каб Дзяды бачылі, як іх вяльмуюць, ведалі, што нашчадкі не звялі гаспадаркі. Дзядом пакідалася чарка з гарэлкаю, на асобным посудзе клалася патрохі ад усіх страваў…

Рыгор Барадулі

"У праваслаўных 5 лістапада – Дзмітрыеўская вселенская памінальная субота, першая субота лістапада кожны год. У гэты дзень вяршыцца памінальная служба. Спачатку літургія, пасля яе радзіцельская панехіда. Мы ўспамінаем блізкіх і далёкіх родзічаў, молімса аб упакаенні душ. Потым можна пайсці на могілкі", - расказаў нам панамар Яўген з Менску.

Ганна, верніца-пратэстантка, паведаміла: "У нашых цэрквах не адзначаюць святы, каторыя не маюць нічога агульнага з Бібліяй. Гэта значыць свецкія і іншыя рэлігійныя. Так што Дзяды мы не святкуем".

## 10 лістапада будуць судзіць берасцейскіх актывістаў

Стала вядома дата працэсу над берасцейскімі грамадскімі актывістамі Палінай Панасюк і Андрэем Шарэндам.

3 лістапада супрацоўнікамі аддзела ўнутраных спраў адміністрацыі Ленінскага раёна Берасця на іх быў складзены пратакол за парушэнне правілаў правядзення масавага мерапрыемства. “Якім чынам у раздачы звычайных улётак і сувеніраў супрацоўнікі міліцыі ўбачылі масавую акцыю?” – задаецца пытаннем Андрэй Шарэнда і ўзгадвае, як усё было:

– Блакітныя балонікі з надпісам “Малы памежны рух” са слоганам нашай кампаніі, а таксама нашыя торбачкі і трохі друкаванай прадукцыі – улёткі, дзе больш сцісла напісана пра магчымасці малога памежнага руху.

Паліна Панасюк:

– Каб засталіся ад гэтага пазітыўныя ўспаміны і чалавек меў інфармацыю.

Актывісты не лічаць, што раздача ўлётак і сувеніраў гараджанам ёсць масавым мерапрыемствам, таму з такой фармулёўкай яны не згодны і будуць актыўна абараняцца ў судзе. Працэс пачнецца 10-га лістапада а 16-й у будынку суда Ленінскага раёна Берасця, як паведаміў Андрэй Шарэнда.

http://www.racyja.com/hramadstva/10-listapada-buduts-sudzits-berastsejsk/

## Берасцейскія ІП-эшнікі спрабуюць выжыць

Берасцейскія прадпрымальнікі адмаўляюцца каментаваць сітуацыю з наяўнасцю сертыфікатаў. Яны сцвярджаюць, што праблема вырашана, аднак наколькі такі бізнэс будзе прыбытковы, пакуль не ведаюць. Дробныя бізнэсоўцы распавялі пра тое, як ім працуецца ў межах дэкрэту №222:

– Нічога не магу вам сказаць. Бяру беларускі тавар з дакументамі. У лютым закупілі і да гэтага часу прадаём. Вельмі дорага з дакументамі.

– У нас тут была адна мадам. Яна дала інтэрв’ю. Затым у яе было шмат праблем. Адкуль – не зразумела.

– Мы бяром тавар з Гародні. Там усё ёсць – і сертыфікаты, і

накладныя. Усё ёсць. Яны бяруць оптам, а мы ў іх бярэм мелкім оптам. І так паціху працуем.

Большасць прадпрымальнікаў ўстрымліваюцца ад каментароў, так як лічуць, што імі можа зацікавіцца падаткавая і ўпэўненыя ў тым, што пакуль яны маўчаць – будзе магчымасць працягваць працу.

http://www.racyja.com/ekanomika/berastsejskiya-ip-eshniki-sprabuyuts-vyzh/

## Людзям патрэбны элементарныя правы на жыццё, вяртацца ім няма куды




Праваабаронцы берасцейскай Вясны працягваюць клапаціцца лёсам чачэнскіх семьяў, якія патрапілі ў складанае становішча.

Нагадаем, што на чугуначным вакзале Берасьця ўжо трэці месяц пражываюць чачэнскія сем'і з дзецьмі. Сярод якіх вылучаюцца некалькі сем'яў без мужчын.

Па розным прычынам шматдзетныя маці вырашылі, пакінуць сваё жытло, пакінуць родных, пакінуць сваю Радзіму. Шматлікія спробы перасекчы мяжу Эўразвязу ў Берасці апынуліся марнымі. Польскія памежнікі калі-некалі прапускаюць 2-3 семьі на дзень. Паток мінгантаў надта вялікі польскія памежнікі фармальна падыходзяць да вырашення пытання, не улічываюць праблему ў канкрэтным выпадку,у канкрэтнай сямы. Гэта не эканамічныя пытанні, гэта не мроя атрымаць пасобіе ад Еўропы на пражівання. Людзям патрэбны элементарныя правы на жыццё, вяртацца ім няма куды.

Неабыяковыя люддзі дапамагаюць чачэнскім сем'ям, хто чым можа: адны нясуць вопратку, хтосці абутак, некаторыя пускаюць да сябе да хаты, каб выпраць бруднае аддзенне і высушыць яго. Нажаль такіх людзей ня шмат.

Мясцовыя ўлады ігнаруюць праблему, маўляў, гэта не нашыя грамадзяне...

Кіраўніцтва чугуначнага вакзала мае не малы прыбытак за кошт падарожнікаў і магло б зрабіць бескаштоўным карыстанне прыбіральняй прынамсі для дзяцей.

Чаченцы народ сціплы і мае гонар, нічога сабе не просяць нават, калі няма што есці. Зараз надыходзяць халады, на чугуначным вакзале, таксама не горача, многія дзеці прастужаны...

## Суд не прызнаў фактаў фальсіфікацый на выбарах

Суддзя Суда Маскоўскага раёну Берасця Іна Цівунова вынесла пастанову па скарзе Дзяніса Турчаняка. У ёй зазначаецца, што органы ўнутраных справаў пад час правядзення праверкі фактаў фальсіфікацый на выбарчых участках выканалі сваю працу належным чынам. Падставаў адмяніць пастанову міліцыі ў адмове завесці крымінальную справу па фактах фальсіфікацый няма. Пра гэта паведамляе сябра руху “За свабоду” Сяргей Вакуленка, які прысутнічаў на агучванні пастановы:

– Свае памылкі ўлада ўсё ж такі павінна была прызнаць. Калі яна не прызнае, то рана ці позна трэба будзе адказаць.

Сяргей Пятрухін: Працэс палітычны. Тое, што фальсіфікацыя была – гэта факт. І трэба хаця б гэта прызнаць: так, чатыры бюлетэні падкінулі. Супраць фактаў не папрэш. Яны ўсё гэта абыходзяць. Замяняюць галоўнае другасным. Як звычайна.

Вядома што сябры “Руху за свабоду” засталіся незадаволенымі такім сыходам разгляду скаргі і таму бліжэйшым часам, пасля азнаямлення паспрабуюць абскардзіць гэтую справу ў вышэйшай інстанцыі. Варта зазначыць, што на афіцыйным сайце Вярхоўнага Суда РБ праводзіцца апытанне: “Ці давяраеце Вы беларускай сістэме правасуддзя”, дзе 96,12% з апытаных паведаміла што не давяраюць. Давяраюць жа 5,24% апытаных, і калі скласці гэтыя лічбы то выходзіць 101,36% (!). “Як можна давяраць такой сістэме, калі нават у апытанках яны пішуць нейкую “падставу”, – скардзіцца Дзяніс Турчаняк.

* * *

У судзе Маскоўскага раёна Берасця разглядаецца скарга паводле „эксперыменту з бюлетэнямі” сябра Руху “За свабоду” Дзяніса Турчаняка. Дзякуючы яму актывіст выкрыў імаверную фальсіфікацыю на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года. Разгляд скаргі, які пачаўся яшчэ а 10-й гадзіне, вядзе суддзя Іна Цівунова. Падрабязней кажа сам заяўнік Дзяніс Турчаняк:

– Уважліва выслухалі мае аргументы. Пракурор задаваў пытанні, на якія я, як лічу, давай годныя адказы. Рашэнне суда будзе абвешчана ў 15 гадзін. Чакаем.

Таксама на працэсе прысутнічаў і экс-кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусі, сябра Руху “За свабоду” Аляксандр Мілінкевіч. На ягоную думку, як эксперымент, так і судовая справа з’яўляецца гучнай і рэзананснай:

– Мы ўсе ведаем, што выбары фальсіфікуюцца. Улада таксама ведае, што іх фальсіфікуе. Тут ёсць канкрэтныя доказы. І гэты эксперымент мае вялікае значэнне. Я звяртаюся да тых людзей, якія бяруць удзел у гэтых маніпуляцыях. Тэрміну даўніны няма. Ёсць прыклады ў Венгрыі ці Польшчы – і я нікога не запужваю – грамадзянская, юрыдычная і крымінальная адказнасць ёсць за тыя злоўжыванні, якія робяцца.

Актывісты патрабуюць належнай праверкі фактаў імаверных фальсіфікацый у час прэзідэнцкай кампаніі 2015 года. “Прагнозаў я не раблю. Дачакаюся выраку, які павінны агучыць а 15-й гадзіне, і тады ўжо будзем думаць, што рабіць далей,” – зазначыў Дзяніс Турчаняк.

http://www.racyja.com/hramadstva/syonnya-sud-abvestsits-rashenne-pa-ekspe/

## Суд над “незаконна ўзбагаціўшымся”

У Бярозаўскім раёне працягваецца спагнанне грошай з тых, хто атрымлівае дапамогу па беспрацоўі і адначасова падпрацоўвае некалькі дзён, па артыкуле “Незаконнае ўзбагачэнне”.

Адным з “незаконна ўзбагаціўшыхся” стаў жыхар Бярозы 58-гадовы Мікалай Амялюсік, які з 2014 года стаіць на ўліку Цэнтра занятасці.

Дапамогу атрымлівае ў сярэднім 9 даляраў на месяц. У 2015-м Амялюсік знайшоў падпрацоўку агулам на 7 дзён. Суд Бярозаўскага



раёна па іску пракурора вырашыў спагнаць з Амялюсіка васьмімесячны ўрон дзяржавы ў 113 рублёў.

Кажа Мікалай Амялюсік:

– Праца часовая. Капейкі заплацілі. Думаў, будзе яшчэ якая капейка на хлеб. Я не думаў, што з такой сумы, а я атрымліваў 18 рублёў у месяц, што яшчэ можна штосьці у мяне адняць, апошняе.

Прадстаўнік Беларускага Хельсінскага Камітэта Валянцін Лазарэнкаў лічыць такое рашэнне незаконным:

– Суддзі, пракуроры, вы аб чым думаеце?! У якой вы іпастасі існуеце. Дзе гэтыя людзі возмуць вось гэтыя 113 рублёў? Вы ж затым запытаецеся: дзе іх узяў? Гэта другі суд. Чаму ж вы не запыецеся: а што ты ясі, а што ты п’еш?

Міністэрства працы падрыхтавала праект указу павышэння дапамогі па беспрацоўю для тых, каго скарацілі і хто страціў працу па заканчэнні кантракта.

http://www.racyja.com/hramadstva/sud-nad-nezakonna-uzbagatsiushymsya/

## Зіаніда Міхнюк: Працоўныя пакуль баяцца публічнай прасторы

Па пытаннях аплаты працы на фоне крызісу берасцейцы рэдка звяртаюцца за юрыдычнай дапамогай. Пра гэта паведаміла кіраўнік берасцейскага абласнога аддзялення Прафсаюзаў Радыёэлектроннай прамысловасці Зінаіда Міхнюк. З яе словаў, колькасць працоўных, якім неабходная дапамога ў адстойванні іх

інтарэсаў у судовых інстанцыі не змянілася за год. Гэта ўсё тыя ж некалькі дзясяткаў чалавек, якія прыходзяць па рэкамендацыям знаёмых, – адзначыла яна.

– Больш людзі звяртаюцца з бытавымі пытання: падзел маёмасці, скасаванне шлюбу. Працоўныя пытанні ўзнікаюць пры звальненні. Часта наймальнік не можа знайсці сродкаў, каб па заканадаўству зрабіць разлік. І тыя работнікі, які не махнулі рукой на апошнюю зарабатную плату, хоць яна і жабрачая, яны звяртаюцца, і праз суд атрымліваецца прымусіць наймальніка выплаціць.

Як падкрэсліла Зіаніда Міхнюк, часта працоўныя самі не хочуць выносіць свае праблемы ў публічную прастору. А судовая інстанцыя прыпыняе разгляд справы па пагадненню бакоў або па прычыне банкруцтва прадпрыемства.

http://www.racyja.com/hramadstva/zianida-mikhnyuk-pratsounyya-redka-vynos/

## Штрафы за збор подпісаў за бел-чырвона-белы сцяг

Баранавіцкія актывісты Руху “За свабоду” Юрый Казакевіч і Уладзімір Гундар пакараныя судом горада Баранавічы і Баранавіцкага раёна штрафам у 25 базавых велічынь, што складае 525 новых рублёў.

Суддзя Таццяна Груда палічыла збор подпісаў несанкцыянаваным масавым мерапрыемствам, у якім актывісты ўдзельнічалі паўторна на працягу года. Прысутны на судзе старшыня Руху “За свабоду” Юрась Губарэвіч лічыць, што гэта не суд, а расправа над актывістамі:

— Працягваецца звычайная практыка пакарання найбольш актыўных людзей У Беларусі, якія не баяцца выказваць сваіх грамадскіх поглядаў. На маю думку рашэнне суда абсалютна абсурднае, бо ў гэтай сітуацыі разглядалася справа пра збор подпісаў, а збор подпісаў у нашай краіне пакуль яшчэ не забаронены.

Праваабаронца Сяргей Гоўша:

— А як яшчэ сабраць подпісы? На судзе Гундар гаварыў: назавіце мне, якім чынам можна збіраць подпісы і не парушыць ніякага закону?

Актывісты ня будуць абскарджваць рашэння суда. Яны лічаць




гэта бессэнсоўным. Прыгадаем, што сёлета ў красавіку Уладзімір Гундар і Юрый Казакевіч былі пакараны штрафам у 20 базавых велічынь кожны за віншаванне кветкамі жыхароў Баранавічаў з Днём волі.

http://www.racyja.com/hramadstva/shtrafy-za-zbor-podpisau-za-bel-chyrvona/

## Да прафсаюзных юрыстаў Берасця ніхто не звяртаўся па справе „дармаедаў”

Ніводнага чалавека ў Берасцейскай вобласці не звярнулася па юрыдычную дапамогу па пытанню прымусу выплаты грошай у межах так званага дэкрэту аб „дармаедах”. Пра гэта паведаміла старшыня абласной арганізацыі Прафсаюзу Радыёэлектроннай прамысловасці Зінаіда Міхнюк. Яна лічыць, што ці то на працоўных падаткавая аказвае ціск і забараняе надаваць справам галоснасці, ці то грамадзяне проста не атрымоўваюць такіх запытаў у свае паштовыя скрыні:

– Да нас, ні ў офіс прафсаюза, ні да прававога інспектара па тэлефоне, ніхто яшчэ ў Берасцейскай вобласці не звяртаўся, што яму

прыйшлі вось такія паведамленні. Я думаю, што гэта звязана з тым, што ў нас дэфіцыт месцаў, куды можна ўладкавацца, нават нізкааплачваемых. Нідзе няма вакансіяў.

Зінаіда Міхнюк не выключае, што прадстаўнікі ўлады добра ведаюць напружанасць на рынку працы і не імкнуцца абвастраць сітуацыю прымусам сплочваць падаткі на „дармаедства".

http://www.racyja.com/hramadstva/da-prafsayuznykh-yurystau-berastsya-nikhto/

## "Я абвесціў сухую бестэрміновую галадоўку..."




Піша ў сваім пісьме да жонкі вязень СІЗА № 7 Мікалай Бялчук.

Нагадаем, 9 траўня 2014 года па распараджэнні вышэйшага кіраўніцтва капітан міліцыі Неліповіч паспрабаваў адабраць самаробны трактар фермера Аляксандра Бяльчука. Аляксандар трактар не аддаў, бо Неліповіч не змог прад'явіць неаспрэчных падстаў для сваіх дзеянняў. Але ў выніку канфлікту Аляксандр Бяльчук адседзеў 3 месяцы ў турме горада Баранавічы, а ягоны брат Мікалай быў абвешчаны ў вышук.

На судзе інспектар Неліповіч сцьвярджаў, што Аляксандар яго пабіў, а Мікалай пакусаў.

На здымку бачна як Мікалай спрабуе засланіць брата Аляксандра ад раз'юшанага інспектара Неліповіча.

Доказаў прадстаўлена не было, суд кіраваўся "прэзумпцыяй даверу супрацоўніку міліцыі".

Мінула два гады Мікалай нідзе не хаваўся, працаваў, ніякіх позваў з міліцыі не атрымліваў, як, неўзабаве 12 кастрычніка невядомыя людзі ў цывільным на цывілным аўто схапілі яго і кінуліся наўцёкі. Аднавяскоўцы падумалі: "Бандыты!" і кінуліся на паратунак...

http://www.svaboda.org/a/malarycki-detektyu/28053516.html

Як вынікае з пісем выкрадзенага, падчас затрымання Мікалай быў збіты да непрытомнасці. Нават, лекар СІЗА адмовіўся яго прымаць, таму што Мікалай быў “ніякі”. Пазней нехта з лекараў шпіталя па вул. Леніна выдаў даведку, што Мікалай здаровы і тады яго прынялі ў СІЗА.

Мікалай мяркуе, што той лекар яго ўвогуле не бачыў. Мікалай доўгі час марна намагаўся дабіцца справядлівасці па факце ягонага збіцця. І у рэшце-рэшт мусеў пайсці на скрайнія меры – ад 8-ай гадзіны раніцы 1 лістапада Мікалай Бяльчук абвесціў сухую галадоўку “ў сувязі з бязмежжам работнікаў МУС-міліцыі, следчых, работнікаў СІЗА, работнікаў пракуратуры, судоў, работнікаў аховы здароў’я”, - як ён піша ў сваім лісце.

Мікалай патрабуе, каб кіраўніцтва СІЗА паведаміла аб галадоўцы ў Праваабарончы, цэнтр “Вясна”, на “Белсат”, блогеру Пятрухіну, “апазіцыянерам” Вялічку і Малею, бацькам і сям’і. Мікалай заяўляе, што спыніць сваю галадоўку, толькі пасля сустрэчы з журналістамі і вышэй названымі асобамі.

Гэтае пісьмо было напісана 1 лістапада, адпраўлена з СІЗА 10 лістапада і атрымана сваякамі 11 лістапада. Бачна, што кіраўніцтву СІЗА спатрэбілась 10 дзён, каб пераканацца ў сур’ёзнасці намераў вязьня.

Сям’і і саякам Мікалай піша аб скаргах у абласную пракуратуру, следчы камітэт, аб сваім затрыманні і прычыненне шкоды ягонаму здароў’ю.

У сваіх пісьмах Мікалай пытаецца, хто з супрацоўнікаў міліцыі рваў на ім вопратку, распранаў, і кідаў непрытомнага і голага ў камеру. Тры зьмены ахоўнікаў бачылі ўсё гэта і любаваліcь голым, бездапаможным чалавекам. Зараз міліцыянты перакладваюць віну за тое, што адбылося, на сукамернікаў. Сам Мікалай у віну сукамернікаў ня верыць.

Мікалай Бяльчук піша, што кіраўніцтва СІЗА разбірацца ў гэтай справе не пажадала, таму ён пайшоў на скрайнюю меру – сухую галадоўку. Маглі застрэліць брата, мяне бралі здаровым...

“Вы (родныя) мяне не зразумееце, але маё рашэнне цьвёрдае...” – піша Мікалай.

# У Чаркасах адкрылася выстава ў гонар Алеся Чаркашына і Віталя Ціліжэнкі




Гэта супольны праект украінскіх і беларускіх мастакоў, прысвечаны памяці добраахвотнікаў з тактычнай групы «Беларусь».

У Мастацкім музеі Чаркасаў 12 лістапада адкрылася выстава да Дня годнасці і свабоды. Гэта супольны праект украінскіх і беларускіх мастакоў, прысвечаны памяці добраахвотнікаў з тактычнай групы «Беларусь» берасцейца Алеся Чаркашына і ўкраінца Віталя Ціліжэнкі, паведамляе belsat.eu.

Раней гэтыя карціны ўжо выстаўлялі ў Пасольстве Украіны ў Беларусі, у Нацыянальным музеі гісторыі Украіны і іншых гарадах Украіны.

Аляксандра Чаркашына і Віталя Ціліжэнку падчас адкрыцця выставы пасмяротна ўзнагародзілі медалямі за абарону Данбаса ад імя Украінскага Добраахвотніцкага войска.

Хто такі Алесь Чаркашын?

Алесь Чаркашын — удзельнік трох плошчаў: 2001, 2006 і 2010 гадоў. Акрамя таго ён абараняў народны мемарыял «Курапаты» падчас пашырэння Менскай кальцавой аўтадарогі ў 2001-м, браў

удзел у арганізацыях «Край» і «Зубр». Пазней далучыўся да дзейнасці «Беларускай хрысціянскай дэмакратыі».

Алесь Чаркашын быў байцом тактычнай групы «Беларусь», далучыўся да добраахвотніцкага атраду «Правага Сектара» амаль з самага пачатку баявых дзеянняў на Данбасе. Ва Украіне ён вучыўся ў Біблейскім інстытуце ў Херсоне. На вайне стаў капеланам добраахвотнікаў.

https://charter97.org/be/news/2016/11/15/231159/

## Пераслед за “Дзяды”




22 лістапада грамадскі актывіст з Кобрына Аляксандр Мех быў выкліканы позвай да старшага ўчастковага інспектара, маёра міліцыі Свідуновіча, які азнаеміў Аляксандра Меха з матэрыяламі адміністрацыйнай справы.

Як выявілася, за ўдзел грамадскага актывіста ў мерапрыемствах па ўшанаванню памяці герояў паўстання Кастуся Каліноўскага ў Свіслачы, Аляксандру Меху ўмяняюць удзел у несанкцыянаваных мітынгу і шэсці, то бок парушэнне арт. 23.34 КаАП.

Сведкамі з’яўляюцца супрацоўнікі міліцыі. Справа перададзена ў суд.

## Браты не аддалі міліцыі асабістае майно і апынуліся ў СІЗА...

23-га лістапада а 9-30 у судзе Брэсцкага раёна пачынаецца суд над фермерам Мікалаем Бельчуком, які больш за 3 тыдні трымае сухую галадоўку.

Як вынікае з пісем выкрадзенага, галадоўка абвешчаная таму, што падчас затрымання Мікалай быў збіты да непрытомнасці., адміністрацыя ж СІЗА не жадае высвятляць абставіны здарэння.

Іван Бяльчук, бацка Мікалая, запрашае неабыякавых людзей прыйсці на суд каб падтрымаць сына і просіць, тых, хто прыдзе паводзіць сябе карэктна, стрымана і не паддавацца на магчымыя правакацыі.

## Дваццаць гадоў таму Беларусь стала бяз'ядзернай дзяржавай

20 гадоў таму, 27 лістапада 1996 года, з пад'язных шляхоў чыгуначнай станцыі Яцукі ў Дзятлаўскім раёне Гродзенскай вобласці быў адпраўлены ў Расію апошні эшалон з міжкантынентальнымі балістычнымі ракетамі РС-12М «Таполя». Пасля гэтага Беларусь стала бяз'ядзернай дзяржавай.

Ва ўрачыстай цырымоніі ў Яцуках удзельнічалі прадстаўнікі ўладных структур Беларусі і Расіі, высокапастаўленыя вайскоўцы дзвюх краін. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка не прыехаў. Пазней ён неаднаразова заяўляў пра тое, што шкадуе аб вывадзе міжкантынентальных балістычных ракет.

У прыватнасці, на прэс-канферэнцыі расійскім рэгіянальным СМІ ў Мінску 17 кастрычніка 2014 года вывад з тэрыторыі Беларусі ядзернай зброі Лукашэнка назваў самай сур'ёзнай памылкай свайго прэзідэнцтва.

«Я шкадую пра гэта, — калі мы вывелі ядзерную зброю з Беларусі», — заявіў тады кіраўнік дзяржавы. «І мы гэта зрабілі абсалютна бясплатна, — падкрэсліў Лукашэнка. — Я павінен быў выконваць дамоўленасці, прынятыя да мяне. Гэта абавязкова».

Пры гэтым ён лічыць, што мог бы іх і не прытрымлівацца: «У той блытаніне, у тым, што тады было, ніхто б на мяне празмерна не націснуў. Калі б не Ельцын (прэзідэнт Расіі), можа быць, я б так і паступіў. Але яго камарылля, яна яго пастаянна падштурхоўвала».

Лукашэнка нагадаў, што для краіны тады былі цяжкія часы: «Няма ні газу, ні нафты, голая краіна. Нічога няма». Ён распавёў, што яго пераконваў вывесці зброю і прэзідэнт Украіны Леанід Кучма: «Кучма сказаў, ну што ты, Саша, чапляешся за гэтую зброю. Мы яе

абслужыць не зможам».

«Цяпер з вышыні пражытага я бачу: усё б мы абслужылі, усё б было нармальна, — заявіў Лукашэнка. — І намі б ніхто не камандаваў і не патураў, як цяпер».

Паводле інфармацыі МЗС Беларусі, краіна ўпершыню заявіла пра свой намер зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай ў 1990 годзе ў дэкларацыі «Аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь». Падпісаўшы ў 1992 годзе Лісабонскі пратакол, яна аформіла членства ў Дагаворы аб скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў (ДСНУ). Гэты крок быў непарыўна звязаны з прыняццем найважнейшага палітычнага рашэння аб далучэнні Беларусі да Дамовы аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі ў якасці дзяржавы, якая не валодае ядзернай зброяй.

У ліпені 1993 года Беларусь афіцыйна далучылася да ДНЯЗ, стаўшы першай дзяржавай, якая добраахвотна адмовілася ад магчымасці валодання ядзернай зброяй, якая засталася пасля распаду СССР.

У МЗС падкрэсліваюць, што Беларусь адмовілася ад валодання самым сучасным ваенным ядзерным патэнцыялам без усялякіх папярэдніх умоў і агаворак. Тым самым краіна фактычна паклала пачатак працэсу ўрэгулявання пытанняў ядзернага раззбраення на постсавецкай прасторы ў інтарэсах міжнароднага міру і бяспекі.

Вітаючы факт далучэння Беларусі да ДНЯЗ у якасці няядзернай дзяржавы, Вялікабрытанія, Расія і ЗША выдалі Беларусі гарантыі бяспекі, зафіксаваўшы свае абавязацельствы ў Будапешцкім мемарандуме 5 снежня 1994 года.

http://nn.by/?c=ar&i=181109

---

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»